№ 6 (129)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Красавік 2012 г.

# ЗА ПАХОД У ПАЛІКЛІНІКУ БУДЗЕМ ПЛАЦІЦЬ?..




Пытанне пра ўвядзенне платы за наведванне паліклінікі ў Беларусі павінна быць прадметам шырокай дыскусіі ў грамадстве, заявіў галоўны тэрапеўт Міністэрствы аховы здароўя Вадзім Сушынскі на прэс-канферэнцыі ў Мінску, паведамляе інфармагенцтва БЕЛАПАН. Пры гэтым галоўны тэрапеўт адзначыў, што яму не вядома пра падобныя ініцыятывы з боку Міністэрства аховы здароўя. Сушынскі таксама паведаміў, што Міністэрства праводзіць ацэнку, наколькі даступная медыцынская дапамога ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. “Ёсць шмат пытанняў па размеркаванні патокаў пацыентаў. Але гэта тыя праблемы, якія, як правіла, вырашаюцца на ўзроўні арганізацый аховы здароўя”, - сказаў ён.

Нагадаем, прапанова ўвесці плату за наведванне паліклінікі было раней выказана намеснікам прэм’ерміністра Беларусі Анатолем Тозікам на калегіі Міністэрства аховы здароўя. Па яго меркаванні, гэта можа скараціць чэргі ў паліклініках. Як заявіў Тозік, плату за адно наведванне паліклінікі варта ўсталяваць “сімвалічную” - 5 тысяч рублёў. Магчыма, для Тозіка гэта плата і сапраўды сімвалічная, аднак для шматлікіх беларускіх пенсіянераў з мінімальнай пенсіяй яна такой не з’яўляецца. І так многім пажылым людзям пенсій ледзь хапае на лекі і сціплае харчаванне, а калі дадаткова давядзецца аддаваць за кожны візіт у паліклініку па 5000 рублёў, то гэта яшчэ больш ускладніць іх жыццё. Ужа зараз беларускія бальніцы з кожным днём павялічваюць колькасць платных паслуг, літаральна за кожны крок у медыцынскай установе даводзіцца плаціць грошы.Між тым, згодна артыкула 45 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь “Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права на ахову здароўя, уключаючы бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных установах аховы здароўя.

Дзяржава стварае ўмовы даступнага для ўсіх грамадзян медыцынскага абслугоўвання”.

Але што нашым чыноўнікам Канстытуцыя краіны і “права грамадзян на ахову здароўя, уключаючы бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных установах аховы здароўя”.

*(Пачатак. Закан. на стар. 2)*

## Убийство в Заполье

Вечером 6-го марта 25-летний мужчина зарезал в подъезде своего приятеля.

В деревне Заполье Белыничского района был задержан 25-летний местный житель: после совместного распития спиртного мужчина несколько раз ударил ножом своего приятеля, который от полученных травм скончался на месте.

Застолье, растянувшееся на весь день, собутыльники заканчивали у потерпевшего. В конце вечера гостеприимный хозяин захотел проводить друга до квартиры, которая находилась этажом выше. На лестничной площадке между соседями вспыхнула ссора. Из-за чего возник конфликт и почему у него при себе оказался кухонный нож, злоумышленник не помнит. Несколько раз ударив им приятеля, мужчина сам вызвал «скорую помощь», однако спасать потерпевшего было уже поздно: от полученных травм он скончался на месте.

Необходимо отметить, что ранее убийца уже был судим за причинение менее тяжких телесных повреждений.

В отношении агрессивного собутыльника Белыничским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 139 ч. 1 УК Республики Беларусь – убийство, которая предусматривает максимальную ответственность в виде лишения свободы на срок до 15 лет.

Конечно, убийца понесёт заслуженное наказание, но жизнь убитому, молодому парню 1997 года рождения, уже никто не вернёт.

Не только мы задаём вопрос: почему организуемые сотрудниками милиции в Белыничском районе профилактические мероприятия не дают положительного эффекта? Ни для кого не является секретом, что преступность в районе в последнее время значительно активизировалась, ярким подтверждением чего служит очередное убийство.

***По материалам uvd.mogilev.by.***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# Таннага малака не будзе




Таннае "сацыяльнае" малако канчаткова знікла з прылаўкаў звычайных магазінаў Магілёўскай вобласці 11 красавіка. Малочныя прадукты па нізкаму кошту будуць атрымліваць толькі сацыяльныя ўстановы: дзіцячыя садкі, школы, бальніцы і іншыя закрытыя ўстановы. Такое рашэння прынялі "сацыяльна арыентаваныя" чыноўнікі з Магілёўскага аблвыканкама, паведаміў 9 красавіка на прэсавай канферэнцыі па пытанню выпуска сацыяльна значнай прадукцыі начальнік упраўлення гандлю і паслуг Магілёўскага аблвыканкама Алег Буянаў.

Таксама аблвыканкамаўскі чыноўнік адзначыў, што пэўны час невялікая частка таннай малочнай прадукцыі будзе пастаўляцца ў так званыя "сацыяльныя" крамы. Аднак і ў гэтых крамах набыць "сацыяльную" прадукцыю змогуць толькі пэўныя катэгорыі грамадзян, якія будуць вызначаць самі крамы, улічваючы рэкамендацыі ўпраўлення гандлю і паслуг.

Раней Алег Буянаў абяцаў, што ўжо бліжэйшым часам на Магілёўшчыне будзе значна пашыраны асартымент малочнай прадукцыі нізкай тлустасці і казаў пра тое, што "Повышая цены на молочную продукцию, мы выравниваем их с ценами в сопредельных государствах." Аднак "клапатлівы" чыноўнік чамусьці не ўзгадваў той факт, наколькі сярэдні заробак і пенсія ў сумежнай з Магілёўскай вобласцю дзяржаве вышэй за сярэднебеларускія…

Нагадаю, што напрыканцы сакавіка каля 150 жыхароў Магілёва звярнуліся да гарадскіх уладаў з патрабаваннем забяспечыць свабодны продаж малочных прадуктаў па даступным коштам. Таксама магіляўчане звярталі ўвагу чыноўнікаў на тое, што неабходна адазваць прэмію "Чалавек года" у генеральнага дырэктара ААТ "Бабуліна крынка" Ігара Кананчука, бо прадпрыемства пастаянна не задавальняе заяўкі гандлёвых арганізацый на танную малочную прадукцыю.

Як зараз бачна, улады Магілёўскай вобласці своеасабліва адрэагавалі на зварот грамадзян і вырашылі цалкам пазбавіць іх малочных прадуктаў па даступных коштах.

Рэспубліка Беларусь з'яўляецца адным з буйнейшых вытворцаў малака ў свеце. Малакаперапрацоўчая галіна Беларусі з'яўляецца экспартаарыентаванай, кожны год больш за палову перапрацаванай малочнай прадукцыі адпраўляецца на экспарт.

Вось такая яна, "сацыяльна арыентаваная" дзяржава, - "моцная квітнеючая Беларусь"…

***Вікторыя Бялова***

## Ездить надо аккуратно

5 апреля в 18:05 в Белыничском районе 51-летний могилевчанин, двигаясь на автомашине «ВАЗ-21063» вблизи деревни Светиловичи, при выборе скорости движения не учел дорожные условия и состояние транспортного средства. Он не справился с управлением, выехал на обочину, где находился вал из песка, и совершил наезд на двигавшуюся по обочине 39-летнюю местную жительницу. В результате ДТП женщина получила серьёзные травмы, с которыми была госпитализирована в реанимационное отделение районной больницы.

***Татьяна Старосотникова, ГАИ УВД Могоблисполкома***

# Воруют всё

В Могилеве были задержаны трое злоумышленников, которые с фермы в д. Запоточье Могилёвского района похитили теленка стоимостью почти 2 млн рублей.

Идея раздобыть и продать на мясо животное родилась во время распития спиртного. Сначала предприимчивые собутыльники хотели отправиться к сестре одного из участников застолья, однако по пути они заехали на ферму в д. Запоточье. Похищенного теленка подельники погрузили в багажник своих «Жигулей» 8-й модели и поехали в Могилев – искать покупателя. Явно перегруженный автомобиль привлек внимание сотрудников Госавтоинспекции. Обнаружив в багажнике необычный груз, они задержали похитителей, ранее, кстати, уже судимых за кражи, а теленка-путешественника изъяли.

В отношении криминального трио Могилевским районным отделом Следственного комитета возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 2 УК Республики Беларусь – кража, которая предусматривает максимальную ответственность в виде лишения свободы на срок до 4 лет, сообщает uvd.mogilev.by.

## ЗА ПАХОД У ПАЛІКЛІНІКУ БУДЗЕМ ПЛАЦІЦЬ?..

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

"Слугі народа" у простыя бальніцы не ходзяць і ў чэргах не стаяць, для гэтага ў іх ёсць так званая "лечкамісія", дзе кваліфікаваныя ўрачы атрымліваюць прыстойныя заробкі і дзе ёсць усё неабходнае абсталяванне.

Ну а простым грамадзянам краіны, каб задаволіць патрэбы чыноўнікаў "моцнай квітнеючай Беларусі", застаецца толькі ўзгадваць анекдот: "Ідэальны беларус працуе ўсё жыццё на дзяржаву, ніколі не хварэе і памірае ў дзень выхада на пенсію". Магчыма, тады нашы "слугі народа" будуць шчаслівыя, бо ніхто не будзе перашкаджаць ім спакойна "рохкаць ля кармушкі"…

***Ірына Беганкіна***

# Есть и умирать стало невыгодно

За последние три года в стране больше всего подорожали прокат холодильника и услуги по изготовлению памятника, а учиться в вузе стало выгоднее, чем ходить в детский сад. Такой вывод можно сделать, проанализировав данные Белстата о средних ценах на платные услуги населению.

Нет, что ни говори, а забота нашего государства о народе буквально на каждом шагу. Вот и сейчас, изучая данные за февраль о средних ценах на платные услуги можно с гордостью констатировать — умереть нам не дадут. За три прошедших года цены на памятники выросли настолько, что теперь не каждый осмелится просто так распрощаться с жизнью. Такая услуга, как "изготовление памятника из мраморной крошки с гранитной вставкой» обойдется в 3, 1 раза дороже, чем в 2009-м. Теперь даже самая ветхая старушка хорошо подумает, прежде чем расстаться с 958,6 тысячами (это средняя цена на услугу, если верить Белстату) и, пересчитав отложенные «на смерть» деньги, окончательно решит записаться в долгожители.

Правда, и жить нынче не очень-то выгодно. Особенно, если при этом питаться. Цены на продукты в последнее время растут с такой скоростью, что впору, как на случай войны, запасать продовольствие впрок. Но не тут-то было. Вслед за памятниками существенно подорожал прокат холодильников (в 3 раза). Так что, увы, от запасов придется отказаться — хотя с теперешними зарплатами это не проблема.

С другой стороны, зачем нам холодильник? Ведь можно просто взять напрокат «телевизор цветного изображения» (эта услуга подорожала лишь в 2,5 раза) и узнать из новостей, что есть мы стали больше и лучше! Или вообще воспользоваться радиоточкой — вещь абсолютно стерильная от проникновения в эфир всевозможных негативных новостей и, что самое важное, дешевая. За три года подорожала эта платная услуга лишь в 1,85 раза (с 540 рублей до 1000). Сплошной позитив!




Из негатива, пожалуй, только увеличение в 3,1 раза «платы за детский сад, за 1 дето-день». «Детодень» — это такая оригинальная единица измерения, в которой Белстат фиксирует, на сколько ваше чадо наело за день макарошек с компотом. Ну, а поскольку, как мы помним, питаться в нашей стране вредно, то и цифра эта немного неприятная. Но выход есть: отдать карапуза в ВУЗ (и рифма хорошая получилась и более выгодно). «Плата за обучение студента в высшем учебном заведении, за месяц» увеличилась по сравнению с садом не так существенно — всего в 2,4 раза. Правда, в денежном эквиваленте один студенто-месяц выглядит не так привлекательно как один дето-день — 467,80 тысяч рублей против 4867 рублей, но все равно выгода налицо.

Есть и совсем хорошие новости. Например «помывка в бане, за одно посещение» подорожала всего в 1,84 раза. Помылся — и с чистой совестью голосовать за наше светлое будущее и не менее светлое настоящее. Чтобы убедиться в этом, можно также недорого прокатиться в поезде по территории Республики Беларусь (проезд подорожал лишь в 1,21 раза).

А вот полет в самолете до Москвы вырос аж в 3,04 раза! Ну и правильно, нечего туда мотаться. Как показывает практика: частые полеты в Златоглавую сильно вредят отечественной госсобственности. Как говориться, уж лучше вы к нам. Ну, а то, что проживание в гостинице у нас стало в 3,4 раза дороже — так это для того, чтобы другие нам не завидовали!

***Анастасия Зеленкова, "Салідарнасць"***

## Могилев ждет большой ремонт на 100 миллиардов рублей

Могилев ждет большой ремонт. На благоустройство областного центра в этом году планируется истратить около 100 миллиардов рублей.

12 ремонтных бригад до 1 мая приведут в порядок городские улицы и дороги, скверы. Также в планах – капитальный ремонт Витебского проспекта. Обновления ждут площадь Орджоникидзе, на Первомайской улице появятся дополнительные места для парковки, поменяют облик фасады некоторых домов.

***Телерадиокомпания «Могилев»***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# Аляксандр Шакуцін — самы багаты сенатар Беларусі

Уласнік «Амкадора» і прадзюсар Ланской — як ён ішоў да багацця?

Уладзімір Пефціеў, Юрый Чыж, Анатоль Тарнаўскі — тройца беларускіх бізнэсоўцаў з чорнага спіса Еўрасаюза. Візавыя санкцыі і эканамічныя абмежаванні мусяць ускладніць ім вядзенне бізнэсу. Хто яшчэ мог апынуцца ў «чорнай» кампаніі? Сярод кандыдатаў у гэты не вельмі пачэсны спіс называліся ўладальнік «Санта-Брэмара» Аляксандр Машэнскі, стваральнік «Тытунь-Інвеста» Павел Тапузідзіс, а таксама Аляксандр Шакуцін. «Наша Ніва» расказвае пра апошняга з іх.

## Сенатар з «Белай Русі»

Старшыня рады дырэктараў «Амкадора» Аляксандр Шакуцін знаходзіцца нашмат бліжэй да ўлады за астатніх бізнэсоўцаў. Рэч у тым, што Шакуцін — сам улада. З 2008 года ён уваходзіць у савет рэспублікі, з'яўляючыся намеснікам камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы. Быць сенатарам — няпыльная, але прыбытковая праца. Да дэвальвацыі зарплата складала каля $1000.

Але бізнэсоўцаў тут мала, можна назваць хіба што яшчэ генеральнага дырэктара віцебскага абутковага «Марка» Мікалая Мартынава.

Прозвішча Шакуціна можна знайсці і сярод членаў прэзідыума «Белай Русі». Спіс афіцыёзных дасягненняў вянчаюць два медалі ў гонар перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.

## Хірург-камсамолец

У афіцыйнай біяграфіі сенатара пазначана, што ён нарадзіўся ў 1959 на Аршаншчыне ў вёсцы Вялікае Бабіна. Пачаўшы з працы трактарыстам у мясцовым калгасе, паехаў у сталіцу рэспублікі вучыцца на доктара. Тут, у Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце (цяперашні Медуніверсітэт), Шакуцін заадно праявіў і актыўную грамадскую пазіцыю — стаў намеснікам сакратара інстытуцкага камсамола, а таксама камандзірам студэнцкіх будаўнічых штабоў мінскага абкама камсамола. Магчыма, менавіта пра тыя часы Шакуцін узгадваў у інтэрв'ю «Белгазеце», абураючыся магчымым увядзеннем санкцый: «Яшчэ ў Савецкім Саюзе я змагаўся з падобнымі абмежавальнымі мерамі. А сёння ЕС паводзіць сябе гэтак жа, як Палітбюро тады. У Еўропе хапае сваіх праблем, але яны хочуць, каб і ў нас было дрэнна».

Медыцынская кар'ера Шакуціна ішла ўгару — яго прызначылі загадчыкам хірургічным аддзяленнем у 10-й гарадской бальніцы Мінска, а пасля дырэктарам медыцынскага цэнтра МТЗ.

## Пераход з медыцыны ў прамысловасць

Абвяшчэнне незалежнасці краіны ў 1991 азначала для Шакуціна, як і для многіх іншых прадпрымальных беларусаў, пачатак новага жыцця.

Заплыў да вялікіх грошай быў павольным. Спачатку хірург узначаліў навукова-вытворчае «ПрамМедІнвест» (цяпер «ПМІ-Груп»), неўзабаве ператворанае ў акцыянернае таварыства. Пастаўкі медыцынскай тэхнікі змяніліся на больш прыбытковы імпарт тэхнікі на прадпрыемствы краіны.

Шакуцін і цяпер застаецца ў кіраўніцтве кампаніі, дзейнасць якой у многім звязаная з продажамі за мяжу прадукцыі «Амкадора» — галоўнай крыніцы багацця сенатара.

## Непальскае адценне завода

«Амкадор», акцыянерам якога з'яўляецца Шакуцін, заслугоўвае асобнага расповеду.

Завод дарожнай і будаўнічай тэхнікі быў створаны яшчэ ў 1920-х, аднак у гісторыю Беларусі ён трапіў як першае буйное прадпрыемства Беларусі, у якім прайшло акцыянаванне. Яго яшчэ ў 1991 ажыццявіў прэзідэнт канцэрна Васіль Шлындзікаў, які быў заўзятым прыхільнікам рынкавай эканомікі. Пакуль астатнія заводы ледзь трымаліся на плаву, ягонае прадпрыемства імкліва нарошчвала магутнасці. Шлындзікаў пакінуў сваю пасаду ў 1996. Дэпутат Вярхоўнага Савета і намеснік старшыні АГП, ён вырашыў прысвяціць сябе палітыцы.


*Аляксандр Шакуцін*

А на «Амкадор» прыйшлі замежныя інвестыцыйныя кампаніі. Цяпер кантрольны пакет (каля 60%) акцый холдынга належаць ганароваму консулу Непала ў Беларусі Упендра Махата. Апроч таго, ён кантралюе некалькі бізнэс-цэнтраў у Мінску. Непалец жыве ў Маскве, таму «кіраванне на месцах» ажыццяўляе Аляксандр Шакуцін як уладальнік другога па велічыні пакета акцый.

Каштоўныя паперы засталіся і ў многіх работнікаў «Амкадора» пачатку 1990-х.

Агульная колькасць акцыянераў перавышае 3 тысячы чалавек, аднак ніхто з іх у апошнія гады не атрымлівае ні рубля дывідэндаў. Пры гэтым чысты прыбытак «Амкадора» за 2010 склаў $11,2 мільёна, а за тры кварталы 2011 — яшчэ $31,2 мільёна.

## Цэнтр новага холдынга

Прадпрыемства з'яўляецца адным з самых паспяховых у краіне, таму Аляксандр Лукашэнка і абраў яго для таго, каб стварыць вакол «Амкадора» холдынг.

Падобная практыка прымяняецца і ў іншых галінах эканомікі. Напрыклад, прыбытковы «Савушкаў прадукт» Аляксандра Машэнскага мае аб'яднаць вакол сябе многія бела-

(Пачатак. Закан. на стар. 5)

# Аляксандр Шакуцін — самы багаты сенатар Беларусі

(Заканч. Пачатак на стар. 4)

рускія малаказаводы. Гэтыя выпадкі вылучаюцца тым, што магчымасць стварэння холдынга даецца прыватніку.

Для гэтага дзяржава прадае яму за бясцэнак (фактычна аддае) некалькі іншых прадпрыемстваў. Так здарылася і з «Амкадорам».

Напрыклад, у сярэдзіне 2011 Аляксандр Лукашэнка сваім указам дазволіў прадаць канцэрну тры заводы: дзяржынскі «Аграмаш», лагойскі «Эпас» і Мінскі прыборабудаўнічы завод (цяпер «Амкадор-Белвар») за сімвалічныя $1,5 мільёна.

Зрэшты, не кожнае прадпрыемства прыходзіць да Шакуціна і Махата само. «Амкадор» праводзіць экспансію і за мяжу. У 2009 годзе канцэрн выкупіў завод «Энергазапчастка» ў расійскім Бранску і Пабяржскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання пад Вільняй. Выход на рынак Еўрасаюза не павінен уводзіць у зман. «Амкадор» пастаўляе сваю прадукцыю ў дзясяткі краінаў свету. 50% сыходзіць у Расію, яшчэ 35% тэхнікі асядае ў Беларусі, але сярод астатніх пакупнікоў краінаў Еўропы мала, там перадусім Венесуэла, Індыя і Непал.

### Старанны мецэнат

З імем Шакуціна звязаная і скандальная гісторыя з перамогай Алены Ланскоймі у адборы на «Еўрабачанне-2012».

Выкарыстанне адміністратыўнага рэсурсу, які і прывёў да поспеху спявачкі, абярнулася нечаканай паразай і вывалачкай, якую атрымалі ад Аляксандра Лукашэнкі ўсе арганізатары конкурсу, апроч Шакуціна. На публіку трапілі цікавыя падрабязнасці. Напрыклад, палову ад выдаткаў «Еўрафэста» аплачваў «Амкадор» — цікава, ці давалі на гэта згоду акцыянеры, якія сядзяць без дывідэндаў?

Чаму ж Шакуцін так лабіраваў перамогу Ланской? Алена — адна з трох выканаўцаў, што працуюць у ягоным прадзюсарскім цэнтры «Спамаш», разам з Іванам Буслаем і Дарыяй. Дарэчы, спявак Іван Буслай з'яўляецца былым выхаванцам нашай Бялыніцкай дапаможнай школы-інтэрната для дзяцей-сірот *(заўвага рэдактара)*. Але самая паспяховая сярод калегаў — летась перамагла на «Славянскім базары».




Прадзюсарскі цэнтр быў створаны яшчэ сем гадоў таму ў памяць дачкі Шакуціна, якая загінула ў аўтакатастрофе.

У назве схавана расійскамоўная фраза — «СПАсение МАши Шакутиной». Гэты быў першы прыватны прадзюсарскі цэнтр у краіне. Выдаткі на культуру, нават папсовую — рэдкая рэч сярод беларускіх мільянераў. Імкнучыся адпавядаць густам начальства, звычайна яны з большым імпэтам спансаруюць спартыўныя каманды.

* * *

### Імперыя «Амкадора»

У склад канцэрна ўваходзяць прадпрыемствы ў Мінску («Белвар», «Унікаб», «Унімоб», «Спецсэрвіс», «Торг»), Жодзіне («Літ»), Крупках («Можа»), Пінску, Маладзечне, Лагойску, Дзяржынску. Назвы пералічаных прадпрыемстваў пачынаюцца з прыстаўкі «Амкадор». Апроч таго, ва ўласнасці знаходзяцца заводы ў Бранску, пад Вільняй («Амкадор-Балтык»), «Дормаш», «Дормашмет», «Ударнік», завод імя Гастэлы ў Мінску, калгас «Амкадор-Шклоў». Агульная колькасць супрацоўнікаў — больш за 5 тысяч чалавек.

### Брат-2

Хоць Аляксандр Шакуцін прамяняў медыцыну на больш прыбытковы занятак, фармацэўтычным бізнэсам займаецца зводны брат сенатара, Сяргей. Ён — уладальнік кампаніі «Іскамед», аднаго з найбуйнейшых імпарцёраў лекаў і актыўнага ўдзельніка дзяржаўных тэндараў. Яму належыць сетка аптэк, 11 з іх адкрыта ў Мінску і ўдвая больш у рэгіёнах.

***Ягор Марціновіч, "Наша ніва"***

## Воруют из магазинов

Житель д. Неряж Быховского района пытался похитить продукты на сумму более 2 млн рублей.

6 апреля СК возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении жителя д. Неряж 1985 г.р. (ранее судимого за кражу), который 6 апреля в 1-45 в указанной деревне проник в магазин РАЙПО и пытался похитить продукты питания, спиртные напитки на сумму более 2 млн рублей. Задержан в порядке ст. 108 УПК, сообщает uvd.mogilev.by.

# Меркаванне людзей улады не цікавіць?

Яшчэ напярэдадні новага года ў Шклоўскім і Бялыніцкім раёнах Магілёўскай вобласці адбыліся сесіі раённых Саветаў дэпутатаў. У шэрагу іншых пытанняў на сесіях былі прыняты рашэнні аб ліквідацыі некаторых сельскіх Саветаў у гэтых раёнах.

У прыватнасці, сесія Шклоўскага райсавета прыняла рашэнне скасаваць Ардацкі сельсавет, размеркаваўшы яго тэрыторыю паміж суседнімі Гарадзішчанскім, Славенскім і Александрыйскім сельскімі Саветамі. Таксама вырашана спыніць паўнамоцтвы Ардацкага сельскага Савета дэпутатаў, пастанавіў, што дэпутаты гэтага Савета захоўваюць статут дэпутата мясцовага Савета дэпутатаў на ўвесь тэрмін іх паўнамоцтваў і ўдзельнічаюць у працы Гарадзішчанскага сельскага Савета дэпутатаў.

На сесіі Бялыніцкага раённага Савета дэпутатаў было прынятае рашэнне аб змене адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання і далучэнні тэрторыі Эсьмонскага сельсавета да Машчаніцкага.

Па словах дэпутатаў райсаветаў, якія яны выказалі ў прыватных гутарках, рашэнні аб ліквідацыі сельсаветаў былі прыняты з падачы Шклоўскага і Бялыніцкага райвыканкамаў, быццам бы з мэтай скарачэння расходаў фінансавых сродкаў і ў сувязі з змяншэннем насельніцтва на тэрыторыі Ардацкага і Эсьмонскага сельсаветаў.

Напрыканцы лютага рашэнні райсаветаў зацвердзіў Магілёўскі аблсавет і паступова пачаўся працэс аб'яднання сельсаветаў.

Безумоўна, бюджэтныя сродкі эканоміць трэба. Аднак вельмі здзіўляе той факт, што мясцовыя ўлады і дэпутатаў райсаветаў чамусьці абсалютна не хвалюе меркаванне шэраговых грамадзян, якія пражываюць на тэрыторыі ліквідуемых сельсаветаў. Яго проста ігнаравалі. Ніхто нават не паклапаціўся, каб растлумачыць людзям неабходнасць такой рэарганізацыі. Між тым абсалютная большасць жыхароў гэтых сельсаветаў




ставяцца да іх ліквідацыі вельмі адмоўна. Людзей хвалюе пытанне, як яны змогуць дабрацца да новых цэнтраў сельсаветаў, каб атрымаць неабходную даведку ці талон на паліва.

У прыватнасці, вось што кажа адна з жыхарак вёскі Заазер'е былога Эсьмонскага сельсавета: "Як мне дабрацца да той Машчаніцы, гэта ж амаль 30 кіламетраў, аўтобус туды не ходзіць. А звяртацца ў сельсавет даводзіцца рэгулярна, каб талон на паліва ўзяць, ці каб дапамаглі гною на ўчастак прывезці. Ды і даведкі розныя патрэбны пастаянна, каб тую ж бульбу здаць у райзаг ці яблыкі, ягады прадаць. У нас у вёсцы ўсе супраць, каб наш сельсавет ліквідоўвалі".

Абсалютна незразумела, як арганізоўваць працу і таму ж старшыні Машчаніцкага сельвыканкама, бо зараз тэрыторыя сельсавета ад Карытніцы да Смагілаўкі выцягнулася амаль на сорак кіламетраў. Між тым за навядзенне парадку на зямлі чыноўніку ўсё роўна давядзецца адказваць, пры тым, што ніякіх штатных супрацоўнікаў для гэтых мэтаў у сельсавеце проста няма, таксама як і неабходнай тэхнікі. У тых жа Бялынічах некалькі соцен супрацоўнікаў камунгаса за неблагія грошы гэты парадак падтрымліваюць і то часм здараюцца накладкі. Можна толькі паспачуваць Аляксандру Лаўрэнцьевічу Шчацінка, бо напярэдадні "Дажынак", якія пройдуць у Магілёўскай вобласці, давядзецца папацець яму вельмі моцна.

А меркаванне шэраговых грамадзян улады Шклоўскага і Бялыніцкага раёнаў не хвалююць, бо "вертыкаль" пабудавана па прынцыпу ўліку меркаванняў толькі вышэйстаячага кіраўніцтва…

***Іван Барысаў***

## Правительство Мясниковича доживает последние дни?

Появившиеся еще в начале февраля слухи о возможных кадровых пертурбациях к началу апреля были подкреплены конкретными фамилиями и схемами ротации высокопоставленных чиновников, в связи с чем мега-кадрового дня можно ждать уже в ближайшие дни.

Следует отметить, что де-факто смена состава правительства уже началась с перевода В.Иванова (он сам знает, за что) с должности вице-премьера РБ на должность "глаз и ушей" А.Лукашенко в Белорусской калийной компании.

Кроме того, первый вице-премьер В.Семашко уже в которой раз подал прошение об отставке по состоянию здоровья, и не исключено, что в любой момент может получить "добро" на пенсию.

Говорят, что уже собрал личные вещи и вице-премьер Сергей Румас, который не очень комфортно чувствует себя как в роли подчиненного Мясниковичу, так и в роли главного ньюсмейкера страны, а потому хотел бы вернуться в банковскую сферу.

Получается, что на текущий момент в Беларуси де-факто отсутствует дееспособное правительство, ибо из оставшихся вице-премьеров остаются А.Калинин, брошенный на амбразуру реформы жилищного строительства (выдержит ли?) и отвечающий за соцкультбыт А.Тозик.

*(Начало. Оконч. на стр. 8)*



# Лукашенко сделал вице-премьером того, кого в 2003-м уволил за фальсификации



*Михаил Русый*

Александр Лукашенко назначил Михаила Русого, возглавлявшего ранее министерство сельского хозяйства и продовольствия, заместителем премьер-министра страны. Он ожидает от него того, о чем договаривались в поле.

В свою очередь, исполняющим обязанности главы белорусского Минсельхозпрода назначен Леонид Маринич, сообщили interfax.by в пресс-службе главы государства.

Пост вице-премьера оставался вакантным после назначения бывшего заместителя премьер-министра Валерия Иванова генеральным директором ЗАО «Белорусская калийная компания».

Лукашенко, обращаясь к Русому, заявил, что нисколько не колебался, принимая данное кадровое решение. Он заявил об актуальности задачи по выходу на $ 5-7 млрд. экспорта сельхозпродукции к концу пятилетки.

– Темпы приличные, но обеспечить высокий уровень будет непросто. Я очень надеюсь, что те конкретные проекты и программы, о которых мы с вами договаривались в поле, на ферме, на конкретных объектах, будут реализованы еще быстрее, нежели мы планировали тогда, – сказал глава государства.

Примечательно, что указом Александра Лукашенко от 10 июля 2003 года Михаил Русый был освобожден от должности министра сельского хозяйства «за неисполнение поручений главы государства об обеспечении полной и своевременной выплаты заработной платы работникам агропромышленного комплекса и погашении задолженности перед населением и сельскохозяйственными организациями за сданную сельскохозяйственную продукцию, а также за фальсификацию отчетных данных по этим вопросам».

В мае 2010 года был вновь назначен министром сельского хозяйства и продовольствия. И вот теперь – занял место заместителя премьера, «как сильная кандидатура, не уступающая прежнему министру».

Ирина Крылович: «Обращение к Михаилу Русому, по сути, констатация того, что планы, несмотря на прошлогодний кризис, переверстывать никто не будет»

– Посыл к новому вице-премьеру – это слова Лукашенко, которые были записаны в программу пятилетки на Всебелорусском собрании еще до выборов 2010 года. Обращение к Михаилу Русому, по сути, констатация того факта, что решения неизменны и планы, несмотря на прошлогодний кризис, переверстывать никто не будет, – прокомментировала «Салідарнасці» кадровое назначение экономический обозреватель Ирина Крылович. – Реальность их выполнения зависит от макроэкономической политики в ближайшие годы. Нам говорят, что эмиссия не проводится, а это значит, что в нынешнем году сельское хозяйство не получит дотаций, как в прошлые годы. Поэтому не стоит ожидать увеличения объемов производства сельскохозяйственной продукции.

Рост в пределах 5-7 миллиардов долларов мог бы стать возможным, благодаря новым рынкам сбыта. Но не думаю, что есть убедительные перспективы для этого. Сегодня основной потребитель белорусских продуктов – Россия. В последнее время в рамках Союзного государства пишутся совместные балансы, поэтому продовольственный поток контролируется обеими сторонами.

*Лера Василькова, Сергей Стаховский, “Салідарнасць”*

# Белыничский район – рекордсмен

**По употреблению спиртного на душу населения.**

Петр Рудник призвал население включиться в общую борьбу с пьянством, нарушением дисциплины, злоупотреблениями со стороны руководителей.

«Укрепить общественную безопасность и дисциплину без участия простых жителей практически невозможно», — заявил руководитель Могилевщины Петр Рудник. В четверг, 29 марта на заседании Могилевского облисполкома обсудили выполнение Директивы №1.

По сравнению с предыдущими годами на Могилевщине снизился уровень преступности. Меньше гибнет людей на дорогах, на пожарах и на производстве. Однако есть и много замечаний. Например, в области более 1200 водителей находятся на учете у нарколога. Белыничский район установил рекорд по употреблению спиртного на душу населения – 18 литров. Около 100 ДТП в Могилеве произошло по причине плохого состояния дорог.

Председатель облисполкома Петр Рудник призвал население включиться в общую борьбу с пьянством, нарушением дисциплины, бесхозяйственностью, злоупотреблениями со стороны руководителей.

Вот так рекорды устанавливают в нашем Белыничском районе…

*По материалам ТРК «Могилёв»*



ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## У Шклове ў Рэспубліканскую партыю працы і справядлівасці ўступаюць арганізавана



***Шклоў. Помнік агурку***

Напрыканцы сакавіка Шклоўскі раён наведала старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі, намеснік старшыні абласной арганізацыі Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці Валянціна Мацукова. Мэтай візіту з'явілася стварэнне Шклоўскай раённай арганізацыі партыі.

Для партыйнай функцыянеркі пры дапамозе райвыканкамаўскіх чыноўнікаў былі арганізаваныя сходы і сустрэчы з працоўнымі калектывамі на шэрагу прадпрыемстваў Шклоўскага раёна. У прыватнасці, Валянціна Мацукова наведала адкрытыя акцыянерныя таварыствы "Шклоўскі масладзельны завод", "Шклоўскі камбікормавы завод" і "Шклоўскі ільнозавод". Партыйная функцыянерка распавяла працоўным пра тое, што галоўнай мэтай створанай у 1993 годзе Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці з'яўляецца "стварэнне грамадства эканамічнага дабрабыту і сацыяльнай справядлівасці".

Пасля заканчэння арганізаваных "вертыкаллю" мерапрыемстваў работнікі прадпрыемстваў у арганізаваным парадку падавалі заявы на ўступ у партыю. Плануецца, што пасля прыёму іх у члены абласной арганізацыі Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці будаць створаны пярвічныя і Шклоўская раённая арганізацыі партыі.

Неабходна адзначыць, што апошнім часам партыйныя функцыянеры Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці пры дапамозе чыноўнікаў ад ідэалогіі значна актывізавалі сваю працу па стварэнню раённых арганізацый у цэлым шэрагу раёнаў Магілёўскай вобласці. Для іх арганізуюцца сустрэчы с працоўнымі на прадпрыемствах і ва ўстановах, пры тым, што прадстаўнікам любой дэмакратычнай арганізацыі рабіць гэта цалкам забаронена. Праваабаронцы звязваюць узрослую актыўнасць ідэолагаў і партыйных функцыянераў з маючымі адбыцца восенню выбарамі ў Палату прадстаўнікоў.

Згодна Закона Рэспублікі Беларусь «Аб палітычных партыях», "умяшанне дзяржаўных органаў і службовых асоб у дзейнасць палітычных партый, саюзаў, таксама як і ўмяшанне палітычных партый, саюзаў у дзейнасць дзяржаўных органаў і службовых асоб, не дапускаецца, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам".

Аднак у нашай краіне ні для каго не з'яўляецца сакрэтам, што праўладныя палітычныя партыі атрымліваюць ад чыноўнікаў "вертыкалі" усялякую магчымую падтрымку, тым часам як сяброўства ў дымакратычнай партыі альбо арганізацыі можа прынесці грамадзяніну толькі праблемы і пераслед з боку ўладных структур.

Застаецца чакаць, калі раённую арганізацыю Рэспубліканскай арганізацыі працы і справядлівасці ствараць і ў Бялыніцкім раёне.

***Віктар Баравікоў***



## Правительство Мясниковича доживает последние дни?

*(Оконч. Начало на стр. 6)*

Планируется, что засланного в БКК Иванова заменит министр сельского хозяйства М.Русый (*информация подтвердилась, - ред.*), а досрочно сошедшего с вице-премьерства Румаса (курирует экономику) – министр финансов А.Харковец. Обе кандидатуры не вызывают восторга в чиновничьих кругах, поскольку во втором случае управление экономикой страны будет отдано в руки бухгалтера, а в первом – речь идет о человеке, который мыслит исключительно реалиями господдержки и ее распила.

Фамилии потенциальных кандидатов на место Семашко пока хранятся в строжайшем секрете (Семашко отвечает за ТЭК), но поговоривают, что о-о-очень рвется в правительство министр экономики Н.Снопков.

На должность министра сельского хозяйства прочат … нет, не Котковец … кого-то из второго звена управления. Замминистра сельского хозяйства Н.Котковец уже скоро присоединится (сама знает, за что) к экспремьеру С.Сидорскому в Единой экономической комиссии.Кем будут заполнены другие министерские вакансии, особого значения не имеет, поскольку все они будут подчинять второй версии правительства Мясниковича под кодовым названием "За неизменность социализма".

В заключение хотелось бы отметить, что если при нынешнем составе правительства члены миссии МВФ затруднялись сходу назвать хотя бы пару фамилий "адвокатов реформ" в рядах белорусских властей, то с новым составом фраза типа «у правительства Беларуси есть понимание необходимости реформирования экономики» и вовсе будет звучать как анекдот.

***АФН***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Адрас рэдакцыі: Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 11.04. 2012 г. у 18-00.